БІБЛІЯТЭЧКА
«СТУДЭНЦКАЕ ДУМКІ»

# ВЕДЗЭЯ НАБЫВАРАТ

БЕЛАРУСКАЯ
АНАНІМНАЯ ЛІТАРАТУРА
КАНЦА XX СТ

МЕНСК – ВІЛЬНЯ
1989

## Паўлюк Задзірасты

# ЯК МЯНЕ АДВАДЖВАЛІ АД «ТАЛАКІ»

(паэма)

Я спакойны, я жанаты,
Невысокі, сьлепаваты,
Быў заўжды інтэлігентам,
А тут робяць дысыдэнтам..
Я ў галосна́сыць быў паверыў,
40 год нямком я жыў,
Лёс свой служба́й толькі мераў
І нібы свабодны быў.
А бяда мая — дажыўся,
Як зачэпіш, дык баліць;
У дзяцінстве не вучыўся
Па-расейску гаварыць.
Каб вазіў я гной на ферме,
То ня муляла б бяда,
Там ня ловяць, дзе хто перне,
І не цягнуць да суда.
Але ж вывучыўся, ліха...
У сталіцы жыць пачаў,
І ня ўседзіш, браце, ціха,
Бо акцэнт мой выдаваў.
Трыццаць год мяне дражнілі
То за"тра́пку", то за"бруха"
І ад рогату аж вылі:
Во"калхознік",во "псяюха".
Я акцэнт таптаў, як мог,
Я пачаў быў заікацца —
Моўны так араў мурог,
Каб да іх прыбудавацца.

"Трапку"з"брухам","чурку"тожа
Неяк вывучну, мой Божа
Стаў вучыць другія мовы --
Малады быў і здаровы.
І цяпер па-беларуску
Каб што правільна сказаць,
Я. падумаю па-руску,
Ды пачну перакладаць.
Я падумаю па-польску,
Па-украінску магу,
Па-нямецку, па-літоўску,
Свой акцэнт не берагу.

Час ішоў.
Застой стаяў.
Я зь іх слоў перакладаў.
Пастарэў, парвалі зубы,
Збудавалі ў роце мост.
І акцэнт на маю згубу
Аднавіўся на ўвесь рост.
Зноў рагочуць з вымаўленьня,
Пасылаюць у калгас.
Перажыткам пакаленьня
Наракалі каторы раз.
Спрабаваў пад іншаземца
Маскавацца, колькі мог.
Пад казахскага хоць немца,
Хоць пад чорта, каб бяз рог.

Дзе ж мне з кім пагаварыць,
Каб бяз сьмеху і бяз зьдзеку?
"Талака" чую шуміць,
Не выбраў замест лекаў.
Хлопцы мкнуць на Курапаты.
Я за імі... От псямаць!
Я спакойны, я жанаты...
Дык за што мне штраф даваць?
Нёс я Берыі — падонка
На калу ў пенснэ партрэт.
Ззаду дзеці йшлі і жонка —
Цэлы мой аўтарытэт.
А на заўтра, як укус:
Бух мне позвачку у МУС!
"Мітынг ваш быў без дазволу
І без санкцый чынароў..."
"Але ж я ня плёў крамолу..."
"Штраф плаці і будзь здароў".
Сеў я дома і сяджу,
Зонцы ў вочы не гляджу.
"Дзе паўсотні ты падзеў?
Мо згубіў, прапіў, праеў?"
"Новы век,—кажу,—харошы:
Ня усё мерыцца на грошы.
Я й цябе завалаку,
Каб пачула "Талаку".

Зноў хадзіў на іх я сходы,
Слухаў мову, быццам сьпеў.

Чуў, што выйшаў я з народа,
Што загнаць хацелі ў хлеў,
Што дурным наш род рабілі,
Што па турмах нас гнаілі,
Што культуру разграблі —
Па Сібіры разьвязьлі,
Каму ў рукі лом-лапату,
Разумнейшым — Курапаты.

Што раней мы гонар мелі,
Што пабілі мы татар,
А каб душы не чарсьцьвелі,
Быў у нас першадрукар.
Што спрод славян ці немцаў
Мелі мы аўтарытэт.
Не пускалі далей сенцаў,
Калі збройны лез валет.
Што ня мы ў эмігранты —
Эмігрантамі да нас!
Што акторы, музыканты
У нас мелі зорны час.
Што ў маскоўскіх камяніцах
Цуды нашае рукі.
Што за волю лезьлі біцца
Часта нашы мужыкі.
Што забілі нам Купалу,
Што касьцямі шлях услан
К Беламорскаму каналу,
І ў Нарыльск, і ў Магадан.

Што адвучвалі ад працы,
Што разбэшчвалі народ,
Пад дурных маскіраваўшца
Прымушалі нас штогод.
Што"Мужыцкай праўды" слова
Актуальна і цяпер,
Што заплёваную мову
Не пускаюць на папер.
Што нам памяць адбівалі,
Сын на бацьку — уперад!
Што манкуртамі мы сталі —
Не калгас, а ўвесь народ.
Што ў яжовых рукавіцах
Матак мацалі пры нас,
Потым вешалі на спіцах—
Быў такі прыгонны час.
Што жуем мы хлеб ды сала,
Што ня спухлі безь яды —
Сялянін у нас удалы,
Як вярблюд той без вады.
Што раку гаўном зглумілі,
Што ні горад, то смурод.
Што Чарнобылем накрылі,
Не раён, а ўвесь народ.
Што ў дурдоме без пуцёўкі
Кожны мог адпачываць.
Чужакоў блатных і лоўкіх
Слалі намі кіраваць.




Што па ўсёй па Беларусі
На пасадах і дамах
Вырай сеў, нібыта гусі
І ня згоніш трах-бабах!
Што—дзе цэркаўка, кальцёлік--
Парабілі МТС.
Да адзінкі ставяць нолік —
Называецца-прагрэс.

Што пустыню на Палесьсі
Загадалі нам рабіць,
Што жаўрук у паднябесьсі
Не пяе, а просіць піць.
Што дзікунскія абрады
Дырэктывы людзям шлюць.
Што галоснасьці мы рады —
Галасіць усім даюць.
Што пара людзямі звацца,
Каб далей не адставаць
Нам за розум трэба ўзяцца,
Трэба перабудаваць...

Я усё слухаў, я пасіўны,
Я— былых эпох прадукт,
Сам з сабою агрэсіўны,
А на людзях—пшык—патух.
Спор-дыскусію хацелі
Пра мэтро яны усчаць.
Думаў я, каб іх ня зьелі,
Трэба, мусіць, памагаць.
Я аб'яву нашрайболіў —
Тэкст сьпісаў з "ВМ"/газэты/—
Ды на плот прымастаколіў.
А мне ў рэбры пісталетам!
Рукі ўзад, заткнулі рот,
Павялі далей за плот.
Чую зноўку будзе гуз!
Вунь і шыльду бачу: МУС.

"Што разьвешваў,-кажуць,-контра,
Недабіты ты нацыст!"
А другі падлюсунік мондры
Кажа: "Ён шчэ пацыфіст!"
Я кажу: "Чытай аб'яву,
Што гаржам газэце даў.
Я ле, гэту праяву,
Слоўца ў слоўца перадраў."
Бачу — ведаюць, рагочуць,
Дурыня строяць на вачах.
А чаго канкрэтна хочуць?
Наганяюць толькі страх. Ах!
Штраф—бабах! Ідзі дамоў,
Каб бяз лёзунгаў і слоў!
Зноў!

Зноў заробку палавіну
Концы я не алдаю...
А каб вас у дамавіну!
Татку-матку вашую!..

Зноў іду да"Талакі".
Тем навін, як блох у сукі!
Камсамолу незрукі —
Дык прагнаў іх зноў на мукі,
На бадзяньні па двары...

Хто арэ, а хто жарэ...

Нехта зноў пушчае хмары,
Нехта цуглямі ўшчаміў
І пра Сталіна зноў марыць,
Каб скарэй бандыт ажыў...
Ох, трывожна, зноў трывожна,
Гандляры даюць байкот:
Хай гніе, купіць ня можна,
На цьвічок чапляй банкнот.
Так мачыма правіянт
Дасьць чылійскі варыянт!
Зьверху хтосьці бласлаўляе:
Трэба крызіс, трэба гнеў.
Перастройка? Вам якая?
А ну,кыш назад у хлеў!

З цяжкай думкай мкну да дому,
А на сустрач санаваты:
—Табе позвачка сьляпому!
Пойдзеш, гніда, у салдаты!
—Як? За што? Дык не вайна!
У газэтах—разбраеньне...
—Для тебя—путя одна.
Воспитають, без сомненья!
—Белы маю я білет,
Саракоўка за плячамі...
Ваенком сказаў: "Привет!
Утром быть,как все, с вещами!"
Папсавалі мне настрой.

Я да доктара, браточкі:
—Палічы, харошы мой,
Мне хваробы, як цьвяточкі.
Тут абсцэс, радыкуліт,
Язва, нырак палавіна,
Печань, сэрца і гастрыт —
Кандыдат для дамавіны.
А яшчэ я тут няўрокам
Акрыеў вось правым вокам.
Дзесяць год, чаму ня знаю,
А кульгаю і кульгаю.
У атаку пабягу —
Справа стрэльнуць не змагу,
Зылева — ў руку параліч...
Хоць жану да войска кліч...
Доктар піша мне даведку
Па-латыні... Цёмны лес!
Ставіць нейкую паметку
І кірус у сабес.
Каб здаровы вы былі
Есьць жа праўда на зямлі —
Інвалідпасьць мне далі!
Сунуў кніжку ваенкому.
А ён змрочны ўвесь сядзіць,
Бышцам мордай аб салому,
Так губамі шамаціць:
—Дуй атседава, калека!
Нагарыць мне, нагарыць...

Клятву даў, што чалавекам
Буду я цябе рабіць...

Зноў іду да "Талакі"
А яна ўся ў мундзюрах!
Значыць, быў загад такі
Тых высокіх, змрочна-хмурых,
Але ўсіх не заграблі:
У "Талацэ" былі і бабы,
І старыя гарбылі,
І, як я, здароўем слабы.

Хтось быў вылаяўся матам.
Сесьці б дзе, пагаварыць.
—А пайшлі ка мне да хаты,
Чаем можам замачыць...
Ну, прыйшлі. Частую чаем.
Сэрца чуе і баліць.
Аж у сенцы выклікаюць —
Міліцэйскі ўзвод стаіць!
—Што за мітынг? Што за сход?
Пачаму ў цябе народ?
—П'ем хто чаю, малака...
—Мітынг гэта! "Талака"!
Шагам шморг! За сьпіну рукі!
Разьбяромся на судзе,
Мо' хто возьме на парукі...
А суседзяў! А людзей!

Нас вядуць, як арыштантаў,
Як крамолу пры цары.
Служкі хоць без аксельбантаў—
Падабенства, чорт бяры!
Следчых куча, пракурораў.
—Дык за што вас замялі?
Крымінальны знаем нораў:
—А мы толькі чай пілі!
Лысы шэф гукае зьнізу:
—Я з вас выцісну тут соль,
А ну, усіх на экспэртызу;
Трыпер, СНІД і алкаголь.
Нас круцілі і сьвяцілі,
Бралі пробы на хваробы,
Не знайшлі і адпусьцілі,
Бо ідэйныя вантробы.

Ім гарэлка толькі сьніцца,
Мы для іх — што быдла, зэкі.
Ім бы з бабай ды напіцца,
Пахмяліцца, зноў на лекі...
А у нас чаго нап'есься?
Як з заробку смальнуць штраф,
Вунь,з-пад крану, дык зальесься,
Толькі гонар, быццам граф.
Толькі думкі, толькі мова,
Толькі вочы, каб глядзець,
Толькі розум, толькі слова,
Ну, бо ім таго ня мець.

Супраць кучкі ставяць войска,
Школяць цэлы апарат,
Угавораюць па-свойску,
Што дурны я, пень і гад.
Я ж ніхто, жыву пад зьдзекам.
А хачу быць чалавекам.

Пра аўтара:

Ня быў.
Не служыў.
Не выяжджаў.
Ня маю.
Не выбіраўся,
Не ўзнагароджваўся,
Не судзіўся,
Ня ўдзельнічаў,
Не падвяргаўся.
Нідзе.
Ні з кім,
Ніяк,
Нікога,
Няма.
Прашу ўсё гэта ўлічыць.

ПАЎЛЮК ЗАДЗІРАСТЫ.

Вядзьмак Лысагорскі-меншы

# СКАЗ ПРА САЎКУ ПАЎЛАВА І ГРУПУ ХУТКАГА АДПОРУ

(паэма)

Час мяняецца, прыносіць
Шмат навін нязвыклых ён:
Дэмакратыя, галоснасьць
І "свабодны мікрафон".
Нефармалы ўсюды цiснуць,
Мітынгуюць там і тут,
Дабіваюць сталіністаў,
Над начальствам ладзяць суд.

А у нашым родным краі
Расстаўляе зноў сiло
Звычка подлая, старая:
Толькі б ціха ўсё было!
Хоць як быццам бы і ў нас
Перамены робіць час.

У прэм'еры ды ў міністры
Часяком палезьлі ў ход
Інжынеры, трактарысты —
Менскай выпечкі народ.
Хто калісь ім лазьню ладзіў
І напіткі падбіраў,
Пры пасадзе і акладзе —
Кіраўнік дзяржаўных спраў.
У расчыненыя дзьверы
Да сваіх таварышоў
І Пячэньнікаў Валера
Ідэёлягам прыйшоў.

Пастаноў высокіх кнжу
Ён даўно ужо каўтаў
І таму ніякіх кніжак
Год пятнаццаць не чытаў.

Ды як раз ад перапалкі
І ад крытыкі ды кпін
Адпраўляўся на рыбалку
Хітразан стары Кузьмін.
І пакінуў ён Валеру
Сьметнік значнага памеру.

Нібы мухі, сьметнік гэты
Абсядаў народ такі:
Кампазытары, паэты,
Рэжысэры, мастакі.
Кожны штосьці там шурупіць,
Ды яшчэ па ўладзе лупіць.
З гэтай тлумнаю аравай
Не спраўляецца Бюро.
Хто з іх левы?
Хто з іх правы?
Дзе у іх штык?
А дзе пяро?...
Ясна, ім ідэйны порах
Падмачну заморскі вораг.
І смаркчі-інтэлігенты —
Белай гвардыі агенты...

Хоць настрой Валеры падаў,
Поўз уніз на тармазах,
Выручаў Савелій Паўлаў —
Прапаганды вечны заг.
Дзелавіты і жывучы,
Ен трымаў ад прэсы ніць,
Добра ведаў, як прыгучыць,
Прышчаміць, забараніць.
Ен надзейны, як бязьмен.
Час ідзе, а ён бяз.зьмен...

Не хаваючы даверу,
Лаў параду ён Валеру:
—Хочаш мець апёкаў меней—
Кар гарні чужою жменяй.
Каб лячыць ідэйна хворых,
Трэба моцная рука.
Групу хуткага аддору
Згарбузуем пры ЦК.
Каб ня мы мазгі ўпраўлялі,
І рабілі паварот —
Навукоўцы, генералы —
Адукаваны народ.
Ледзь заўважым дзе заразу,
Падключаем іх адразу.
А паткнецца Адамовіч,
Мы ў адказ яму—адмовіць,
Няхай ведае Алесь:

Як ня просім, дык ня лезь.
На Вячорку і Вітушку
Хутка знойдзем мы заглушку.
Я ў "Вячорцы" растаўку
Прынародна "Талаку".

Хоць Пячэньнікаў няёмка
Чуў сябе, ды быў гатоў
Для бліжэйшага знаёмства
Запрасіць "барацьбітаў".
Вось яны падперлі сьценку:
Філімонаў, Дамарад,
Ульяновіч, Ігнаценка —
Дружны, вопытны атрад.
Задаволена і тупа
Інструктаж чакала група.

Зьвяў Пячэньнікаў: "Ня густа,
Эскадрон былых ваяк.
Так з духоўнаю распустай
Мы ня справімся ніяк.
Як гавораць, ня гейшы,
А старое гуано...
—Ну, а трошкі маладзейшых
Не чутно і не відно?
Зразумеў прамашку Саўка:
— Прадугледжана дабаўка.
Мы Сташкевіча падключым,
Каб ня надта быў калючым.

Хай падкіне нам фактуру
І засьвеціць "агентуру",
Тых, хто сноўдаюць па скверу,
Асьмялелыя ня ў меру.
Ёсьць, хто"бомбачкі"пуляе,—
Боўш, Бягун і Лепялеў,
Заклікаюць шмат гадоў:
"Бі нацдэмаў і жыдоў!"
Калі трэба, ёсьць Давескі:
А.Бажко і А.Залескі...
Дасьць Маскве і Рызе фору
Група хуткага адпору...

Стала мотальна Валеру
І падумаў ён: "Аднак"
На якую мне халеру
Гэты чортаў кавардак?
Папрасіцца б мне ў адстаўку.
Пенсіённыя дзяды
На чале з жалезным Саўкам
Завядуць мяне куды?"

Ды назад вяртацца позна:
Абвяшчае Саўка грозна:
—Група хуткага адпора—
Наша пітуткая апора.
Адбіраем факты ў фонды—
Адкрываем вам сьпецфонды.

Слава Быкава ў зеніце --
Звон ідзе з усіх бакоў.
Дык яго вы гламазьніце
У падтэксьце, між радкоў,
А Тарасава і Сушу
Патрасіце,нібы грушу
Будзе ўлеслай контры мала,
Дазваляем біць Шагала..:

Група узводзіць вочы ў неба,
Кожны чэша даланю:
—Калі трэба—значыць трэба!
Нам яно не ўпершыню.
І дарэчы, без прынукі,
Хоць ён нам не сват, не зяць.
Мы гатовы на парукі
Сёньня ж Жданава узяць!..

Адаслаў дзядоў Валера,
Пачасаў пусты прыбор:
—А ў іх ёсьць якая мера?
Ці ня будзе перабор?
Бо прасіў жа Сакалоў
Браць у бойку меншкалоў...
Супакоіў Саўка: — Што ты.
Не трывожся ні аб чым.
Гэта ўсё — мае турботы
Я усё ўзважыў і ўлічыў.

Шэт наперад мне вядома.
Я за гэтулькі гадоў
Перажыў у гэтым доме,
Мога сто перабудоў.
Косткі мне перабіралі.
А цяпер, скажыце, дзе
Левакі і лібералы?
Я ж сяджу, як і сядзеў.



Я б і сам якога гада
Кулаком гатоў прыбіць.
Толькі нельга мне—пасада.
А нутро даўно сьвярбіць.
Пакачаў уволю ў брудзе
Я гербы іх і сьцягі.
Ну няўжо Яфрэм асудзіць
Пралетарскі пераг іб?..

Аж спалахаўся Валера,
Як клакоча Саўка злом:
"Гэта ж мы такога зьвера
Зьберагаем пад крылом!".
Прыхваў свой позірк колкі
І на выхад выдаў "пас":
—І ня страшна аніколькі,
Калі грымнуць у адказ?

Саўка хмыкнуў: "Божа мілы,
Ён хвалюецца ў журбе".—
—За мяне такія сілы,
Што ня сьніліся табе.
Як дастану з сэйфа папкі
Дык усе падымуць лапкі.
Што казаў, дзе памыліўся,
На каго не памаліўся,
З кім якую чарку піў,
З кім кахаўся,дзе лячыўся,
Што прадаў, і што купіў.

Нібы пчолы мёд у соты
Мне нясуць усё сексоты.
Будзе трэба, без затрымкі
Гэта я аддам у друк.
І у Маскве—не без падтрымкі:
Ёсьць стары сябрук—Сяўрук...
-Штож,—Сказаў Валера,—схолу
Я даю на групу згоду...
І пайшла пісаць губерня
У "Вячорцы" і у "Зьвязьдзе".
Хоць усіх ад глупства верне,
Група дружна рэй вядзе.
Нібы застаўкі сарвала,
Не змаўкаюць крумкачы —
Кандыдаты, генералы,
Адстаўныя стукачы.

Заключэньні і прадмовы
Да гісторыі і мовы,
Рэзалюцыі, ацэнкі —
Хоць адразу стаў да сьценкі.
Падыход амаль што царскі,
Як вучыў Абэцэдарскі.
Не псаваў зусім абедні,
Пёр у першыя рады
"Палітычны субяседнік",
Што вішчэў на ўсе лады.

Пачытаць яго, дык здуру
Не захочаш нават жыць:
Падрыўною агентурай
Навакол усё кішыць.
А народ дурны і сонны
Не цяпетрыць—справы швах:
Тут—нацдэмы, там—масоны,
Родны лад трашчыць па швах.
Публікацыямі Мальдзіс
Падарваў марксісцкі базіс,
А няголены Садоўскі
Адмаўляе уплыў маскоўскі...

Ды з падтрымкай нешта глуха,
Хоць бы дзе радочкі два.
І нарэшце заварухай
Абурылася Масква.
Атрымалася няпраўка,
Нечакана бліснуў гнеў.
І тады з інфарктам Саўка
У бальніцу загрымеў.
А за ім пібкта цені,
Зубы сцяўшы на бягу,
Плітанулі на лячэнныс
Пепяляеў і Бягун...

Скіс разгублены Валера:
"Мне усё гэта—цёмны лес,

Лепш бы я дзяліў кватэры,
А ня ў гэты нетры лез".
І каб даць якую раду,
Весьці справу праміком,
Да сябе сабраў нараду,
Ляснуў грозна кулаком:
—Воз ідэйны наш нясецца
Аж да злому галаву.
Ты куды глядзіш, Русецкі?
Што ты робіш, Жанцавы?
Як няма на мейсцы Саўкі,
Дык залезьлі ўсе пад лаўкі.
Бескантрольны Екель Лёня
Што з трыбуны балабоне?!
Клічце сеньня ж у кантору
Групу хуткага адпору.
Пераглядзьце ўвесь састаў,
Каб ён больш разумны стаў,
Каб ударам найхутчэйшым
Прышчаміць хвасты "Тутэйшым"
І разнесьці на шматкі
Пачынаньні "Талакі".

Скрыгатнулі злосна жорны
Пад бязьлітаснай рукой,
Каб раструшчыць непакорных,
Адабраць у іх спакой.

I пасыпаліся "крупы".
I зьявілася "мука".
I паўсюды пішла група.
I гаруе "Талака:...

Далажылі гэта Саўку —
I пайшоў ён на папраўку.
Зноў вярнуўся ў родны строй
Разам з гвардыяй старой.
Зноў дратуюць гонар, памяць.
Зноў лупцуюць, гоняць, плямяць...
А няўцямная хімера
Выцірае пот з ілба:
Дзе тут Саўка?
Дзе Валера?
Дзе тут фарс?
Дзе барацьба?
З-за чаго ўшчалася бура?
Хто пагрэў на ёй руку?..

Беларуская культура
Плача ціхенька ў кутку.

## НАКАЗ НАРОДНЫМ ДЭПУТАТАМ.

Адстаўка—ўсім цэнзурным катам,
што гвалцяць бедную культуру—
ад невуцтва і проста здуру!..

Культурай правіць той,хто піша
раманы, вершы ды карціны...
хто вызначае пуцявіны
у абшар Духоўнага Узвышша...
і толькі ён — душы ахоўнік—
народу — прама і адкрыта —
а не праз цэнзарскае сіта —
перадае свой плён духоўны...

Зямлю—сялянам, і — навечна!..
/Каб бюракрат ле ня нішчыў/..
Заводы — тым, хто недарэчна
ад іх адлучаны фактычна...

А Уладу — вечнаму Народу!..
Вам, хто на выбарах
сапраўдных —
ад мафіёз! апаратных —
ачысьціць грэшную Свабоду!..

Занатаваў у Калядоўную ноч,
падслухаўшы Голас НАРОДУ, —
**ВЯДЗЬМАК МЕНСКІ**

Паўлюк Задзірасты

# НАРАБІЛАСЯ БЯДЫ У НЯДЗЕЛЬКУ НА "ДЗЯДЫ"

АЛЬБО

# Як я быў на сапраўднай вайне каля свайго дому ў Менску 30.X.88

(ПАЭМА)

Дзень нядзелька, вецер коле,
Бо стаіць крыху мароз.
Шэрань беліць навакольле,
Мерзнуць рукі, ногі, нос.
Сьвята памяці – Дзяды.
Вось і йдуць усе сюды.

Выйшаў я з пад"езду дома.—
Людзі-людзі, гоман-гоман!
Тут мяне за руку хвацъ:
– Ты куда, тваю штамацъ!
– Што за новыя парадкі?
На магілку я, да таткі...

А наўкол кукарды, каскі,
Падазроны ў нас век,
Дачакаесься тут ласкі...
Але ж я яшчэ ня зэк!
Гегемон я, рабацяга,
Не палітык, не стыляга,
Я ж на вашыя пракосы
Дваццаць год плачу ўзносы...
Я народжаны бяз Бога,
Хоць яшчэ не атэіст.
Да Дзядоў, хіба, нябога
Выйсьць ня можа камуніст?
Забарона – хрысьціянства,
А Дзяды шчэ ад паганства.

Я-АКОД, я-брыгадмiл...
—Ну, смотри, чтоб не чудил!

Адпусьцiлi, дзякуй Богу,
Я за дом, ды на дарогу.
Ну а там шынельнай хеўры
Прэ, нiбыта на манеўры.
Нi тралейбус, нi машына,
Нi мужчына, нi жанчына,
Нi стары, нi маладны
Не патрапяць на Дзяды.

Грудзi жудасьцю праймае,
Калi валiць сiлы хмара,
I вiшчыць сiрэна, грае:
Ах, ты сталiнская мара!
Груць калёны у атаку.
На каго? Пабойся Бога!
На старога, на слабога,
Лясь па мордзе, бух пад сраку...

Гонар храпн расьпiрае:
- Мы тут сiла, мы тут ёсьць!
Сiла есьць, але дурная.
Служба ў смак — сабаку косьць.
Хто цкаваў вас на народ?
Хто пагнаў вас на магiлы?
Хто камандуе ўпярод?
Што ж вы робiце, дурылы?

Шынялём сумленьне крыеш...
Як прачнешча, дык завыеш...
Не! Ідуць за радам рад!
Дысцыпліна і загад!

Круцяць Марачкіну рукі,
Мартыненку б"юць пад дых,
Плачуць Содалевы ўнукі...
– Пашкадуйце хоць малых!
Вунь Казловіч рот разьзявіў..
Ну і што, што ты сьпецкор?
Рулю з газам – пшык наставіў:
– На пісакаў робім мор!
– Стальмашонка замялі!
– Ен жа быў у іх Крамлі!
– Замялі, каб больш ня гаўкаў,
Так сказаў вяльможны Саўка.
Рэж нацменаў, як індыкаў,
Ды віжуй, дзе іхні Быкаў.
– Потерял писака стыд!
– Кто в его роду был жид?
– А вот этот Адамович,
Знаю точно: Аранович!
– Все масоны, сионисты,
Переантикоммунисты!
– На што точыце лязо?
– Всех берем, и всех в ШИЗО!
Вы не нацыя, мутанты!
– Мы ў Вандэі эмігранты.

Бой з народам? Бой народу?
Каб, як быдла, стойла знаў?
Каб ня пёрся на свабоду,
Як рабуюць, каб маўчаў?
І Дзяды — варожа сіла —
З таго сьвету б"юць у звон?
Пад бульдозер бы магілы,
Альбо выкінуць іх вон?
Беларусь — усю за краты,
Ацалеў — у Курапаты...

Эх, ці хто у Менску ведаў,
Колькі кормім дармаедаў!
Пры пагонах, пісталетах,
Пры дубінках, пры жылетах,
Пры шчытах, з балёнам газу,
Як пламеты, як заразы.
Быць і біць. Альтэрнатывы
Не дапусьцяць дырэктывы.

Сто машын. Пажарных куча.
Варанкі і ваданёты.
Тры гады "рубішча" вучаць.
Сёньня — практика работы!
- Будзе бой, ці трэніроўка?
- Будзе ўсё. І дужа лоўка!
- Вы, сялянскія сыны,
Чаму кожны з вас дурны?

- Проучить я вас готов .
- Дык ня рушце хоць Дзядоў!
- Кто таков?
Сьпее бойка. Перепалка:
- Идиоты, мне вас жалко...
Сьпее бойка.
- Вот вам будет перестройка!

Слухаць стаў, дык не далі,
Бо маторы зараўлі,
Ды дальбог, як на вайне,
І ўсе едуць на мяне:
Душагубкі,
Вадамёты,
Варанкі
І кулямёты....

- Дык за што нас будуць біць?
Куды дзецца, што рабіць?
Можа ўласьць перамянілі?
Можа фрыцы зноў у нас?
Можа сон дурны прысьнілі?
Што людзям пускаюць газ?

Мегафоны завываюць...
Абкружаюць! Заганяюць!
Войска зьлева,
Войска справа...
- Левай, левай!



– Марш!
– Аблава!
– Хто даў права? –
То крычыць Хрыстос-Зянон,
Спадзяецца на закон.
Абразумілі адразу –
Пшык яму ў вочы газу.
Хочуць зьбіць, павалачы.
– Кыш з дарогі, крумкачы!

Люд сьмялее, робіць кола,
Пасярэдзіне Зянон
Галавою круціць голай,
Шчэ жывы, здаецца, ён.



Як кіно: псіхоз-атака.
Шчыт і шлем. Аўчар-сабака.
Без разбору гвалцяць люд.
– Дзе закон? Савецкі суд?

Гнуць Купаву да зямлі,
Падняли і панясьлі.

Асташонку – па пячонках,
Аж павіснуў на сасонках.
Цягнуць нейкую дзяўчыну,
Кухталя і мне ў сьпіну.
Стаў, гляджу яму у храпу:
Ці пасьмееш яшчэ біць?
Апусьціў мярзотнік лапу,
Проста Бернем глядзіць.
Хачу плюнуць, ды баюся.
Знаю сам, дзе апынуся.
Як прыхопіць такі кат –
Не паможа адвакат.
Грамінуў, пабег далей
З гумай-палкай на людзей.

Важны, мажны і вальяжны,
Рэспэктабельны як пан,
Сам Раеўскі лёс свой дражніць,
Кажа: "Брысь, а то як дам!"
От, маўчаў бы сабе ціха
Альбо лесам уцякаў,
Пшык яму з балёну ліха –
На нагах не устаяў.
Газ у нас дык не японскі:
Чарамховы, чарамхоўскі,
Меўся быць на прусакоў,
Пшык Раеўскаму – гатоў!
Плач, як плакаў наш Купала –
Яму болей перапала.

Стаў сьпектаклі пра ванцэю –
Не заб"юць, дык зразумеюць...
А на самым на пагорку
Быццам невадам з вады,
Цягнуць беднага Вячорку.
– А куды яго? Куды?
– Чё, куды? Туды, в реку:
Топим ету "Талаку"!
И "Тутейших" поморддуем,
Мы их носом, сука, чуем!
Мне приказ и я берусь
Всю очистить Белорусь!
– Ад каго? Ад жыхароў?
Тут палкоўнік аж зароў:
– Чё? Любить вас не привык?
За колхозный ваш язык?
– Але сала любіш наша?
Бульбу прэш, ды без нітратаў.
– Я вам жизню строю краще!
– Строй, ды толькі без саладатаў.
– Вы подполье сотворили!
– Дзе? Пачуць я быў бы рад.
Як вы нас перахрысьцілі?
– Хрен, вам "Матрипатрихат"!
С нами сила и порядок.
Наведём его, где надо!
Брысь!
Заткнись!
Руки вверх! Сюда садись!

Вось якія тут падзеі
Робяць кормчыя Вандэі.
Наша Поза-Бела-Ностра
Атакуе вельмі востра
Як прыціснуць, то здаецца,
Што галоснасьць гнецца, рвецца,
Што Масква не устаіць,
Што й туды паедуць біць,
Што канец перабудове...
Стоп, засраныя панове!
Трасцу ў бок, часы ня тыя,
Людзі болей не нямыя!

У адказ нясуцца маты.
Што, нам тутка зімаваць?
—Дык ідзем на Курапаты,
Будзем там мітынгаваць.

—Абагнаць!

Задрыжала, зараўло.
Задымела: папаўзло.
Замігала, засьвяціла.
Стыне кроў ажно ў жылах.

Людзі сталі на калені
На пакатым тым бугры.
- Плюнь на сталінскія цені,
Зянон-братка, гавары!

На Дзяды натсуп зьбіраўся,
І ніхто зь іх напярод
Знаць ня знаў, не здагадаўся,
Што зь Дзядоў ідзе НАРОД.
І хацеў ён, не хацеў,
Але сёньня зразумеў,
Дзе схавана сіла "класа",
Што жарэ бясплатна мяса,
Што кіруе, як захоча,
Што на могілках рагоча,
Што культуру нішчыць, мову,
Што нас доіць, як карову,
Што давёў нас да жабрацтва,
Што крычыць пра роўнасьць, брацтв
Супраць нас законы піша –
Кыш пад венік, людзі-мышы!
Што ў газетах брэх друкуюць,
На рабочых гоняць страх:
Бач, рабочыя працуюць,
Нефармалы – пры жыдах
За рабочы кошт жыруюць!
Проста жах!
Толькі крыкнуць шчэ ня сьмеюць:
"Бі жыдсў, ратуй Расею!
Натравіць, цкаваць старацца,
Каб ня сьніўся ім той фронт,
Даць пад хвост—пачнуць баяцца,
Ды яшчэ узяць на понт:

Нефармалы? Іх навалам!
Пры станку як вы былі,
Дык яны усё памалу
З магазінаў падмялі.
Рускіх высяляць, павяжуць,
Можа нават будуць біць..."
Чыю душу мёдам мажуць?
Чый язык яшчэ сьвярбіць?
Дзе чыталі мы пра гэта?
Ах, чужая нібы слава?
Быў у іх такі паэта —
Падкалодны гад Цанава.
І сыны яго ў сіле —
Вунь стаіць якая раць!
Морды гэтак адкармілі,
Што за дзень не абасраць!

"Беларусь — стабільны край"—
Для вандэйцаў проста рай.
Бо народ пакорны, чулы
Сталіністам даў прытулак.
Селі моцна на гарбе,
І на мне, і на табе.
Ды народам, як канём
У нябыт, у ноч кіруюць.
На Дзяды хоць спамянём,
Паіменна іх, хай чуюць!

Змыем, счысьцім, сплюнем гразь.
Злазь, брыда, з народа, злазь!

## КАБ СПРАЎДЗІЛАСЯ НА БЕЛАРУСІ
## Ў НОВЫМ, 1989 ГОДЗЕ!..

Каб чыстым дыхалі паветрам
і грудзі нашы, й нашы душы,
каб зьнiклі ўсе, хто нашы нетры,
балоты ды лясы парушыў.
Каб зноў сьпявалі нашы вёскі,
у рэчках каб сінелі хвалі...
Каб лёсы нашы не зламалі
Язэпа-ката падгалоскі...
Каб зьбег, нарэшце, ў адстаўку
наш "вечны ідыёлух" — Саўка..
/Чацьвёрты год перабудовы —
а ён, як і заўжды, гатовы
крышыць ушчэнт свабоду слова -
цяпер — у хеўры Сакалова/...

**ВЯДЗЬМАК МЕНСКІ**

# ЗЬМЕСТ:


Паўлюк Задзірасты
ЯК МЯНЕ АДВАДЖВАЛІ АД "ТАЛАКІ" /паэма/ . . . 1

Вядзьмак Лысагорскі-меншы
СКАЗ ПРА САЎКУ ПАЎЛАВА І ГРУПУ ХУТКАГА АДПОРУ /паэма/. . . . . . . 15

Вядзьмак Менскі
НАКАЗ НАРОДНЫМ ДЭПУТАТАМ /верш/. . . . . . . .29

Паўлюк Задзірасты
НАРАБІЛАСЯ БЯДЫ У НЯДЗЕЛЬКУ НА "ДЗЯДЫ" /паэма/. . . . . . . 30

Вядзьмак Менскі
КАБ СПРАЎДЗІЛАСЯ НА БЕЛАРУСІ Ў НОВЫМ, 1989 ГОДЗЕ!.. /верш/. . . . . . . .43

УЛЬТЫМАТУМ
ВЕДЗЬМАКАМ І ЗАДЗІРАСТЫМ!

Калі 5 дня наступнага месяца не зьявіцеся з пашпартамі і чарнавікамі твораў па ганарар, то ужо 6 дня пералічым яго ў фонд Беларускага Народнага Фронту за перабудову "Адраджэньне".

Адрас рэдакцыі:

сталіца Беларусі,
праспэкт Францішка Скарыны,
хата № 222, III паверх,
рэдакцыя "САМВЫД".

